* * *

У святло,
у світанне
мяне прывялі
жахлівая незваротнасць
і вялікі сум
аб той хвілі,
калі
маё адзінае жыццё,
зусім неўпрыкмет,
імклівым часам падманутае,
мусіць апасці лісцем сухім
пад крокі наступнікаў.
І, як мне казалі,
не ўзнімецца ўжо ніколі,
бо кароткі век чалавечы...
Толькі — о, літасць! — струна
напятая
маёй тугі —
парвалася!
Душа зведала Вечнасць.
...Цяпер я мару быць смыком,
якога цемра бяжыць.
25.05.88

* * *

Калі набягае раса нябесная,
Убіраецца ў сілу маленне.

Пасмялелыя пратaліны душы маёй
Нараджаюць сціплыя кветкі лагоды.

Яна струменіць у Вечнасць, туды,
Дзе губляюцца час і прастора зямныя.

Мы маем іх тут, каб, зведаўшы аднойчы
берагі,
Назаўжды стаць удзячнымі —
ТАМ...

* * *

Напругу
размяркоўвае па часе
спружына лёсу.
Разгорнутаю кропкай
іpвецца за парог
чалавечага абсягу.

Заўсягды?!
Паслухайма:
на Пярэспе і Нямізе
званы змякчаюць
рух наканавання.

* * *

Божа!
Насуперак спёкам, якія здрадай
маёю
Табе —
раскашуюцца,
навучы мяне быць удзячнаю.
Дай мне сілы на добрае.
І адымі, калі мыслю благое.
Ачысці крыніцы мае.
Хай бруяцца ў згодзе —
Вера, Надзея, Любоў.

* * *

Маўчанне Госпада —
побач,
углядаецца ў абрысы мае душы,
кінутай Ім аднойчы зернем
у раллю жыцця
тутэйшага.
Адтуль —
з паверху Вечнасці.
Богаславёная цішыня прарастае
Госпадняю ласкай.
Маўчанне Госпада —
я заблудзілася,
адышлася,
крыніцы далёка.
Вусцішна, сцюдзёна.
Пазаві мяне,
Божа!
21.05.88

**Вялікдзень**

Вясновае зямлі гучанне.
Ціхая ралля маёй слязы.

І зноў прыйшла пара.
Пара завершыць Лёс.
Злучыць два берагі.
Ідзе, ідзе Хрыстос!
14.01.90, Бялград

**У храме**

Свячы гарачую слязу,
духмяны жар васковы
і жар вільготны пачуцця
прыкмецяць чуйныя анёлы.
І долу ані кроплі не спадзе
са шчырага твайго памкнення
твае узнёслае душы малення.

* * *

Няўжо
вясновае галіны-долі
цнатлівае
трымценне
народзіць
амярцвелы
шэпт кляновага ліста
па восені тужлівай
маёй, тваёй —
агульнай?
Няўжо?!

22.07.90, Дараганава

* * *

ІІсус —
Айчына.
Горняй мары —
жальба і надзея.
У бясконцасць —
працяг жыцця.

* * *

*Сыну*

«Ці выратуюцца добрыя,
тыя, што не вераць?» —
занепакоенае спытала дзіця.

Чаму ж ім, гэтым добрым,
і справай, і словам,
пачуццем,—
ды скаваным бязвер'ем,
выпаў лёс пакутаваць зараз,
а потым, уратаваным ужо,
апячыся наканавана
пранізлівым сорамам,
тым сорамам, што і Фама,
і Саўл — мудры Павел —
зведалі на зямлі,
але справаю свайго жыцця
паспелі шчасліва нядолі той вырачыся,
каб чыстымі дзецьмі ляцець да Айца?
Чаму?
Смутак і тайна.

* * *

Урослыя дзірваны забыцця
тояць у сабе адкрыццё
далягладаў, сапхнутых часам,
што
праз людзей варагуе з сабою,
а хоча быць пуцявінай,
ветлаю для ўсіх народаў.

Навальніца выгаворвае:
Сусвету Ратай ужо чакае
з аралам падрыхтаваным.

* * *

Усё.
Спапеленыя мажлівасці,
астылы прысак не маёй душы.
Абыду чужую засмягласць,
каб не выпарылася маё
маленне —
адзіная жывая кропля,
якая прагне Адказу.
І раптам:
пранізлівы смутак —
аднойчы Раскрыжаваны
зноў трымціць
болем- пакутаю.
У маёй руцэ —
цвік.
Вяртаюся!
24. 05. 88

* * *

З дня ў дзень
выпрабоўваю цярпенне
Госпада.
І хто?
Я — брыдкая кропля
нягеглае
плоці.
А Гасподзь —
міласэрны і доўгацярплівы Пакутнік —
з Маці Прачыстай Сваёй
ахінаюць мяне
Покрывам ціхамірнасці ўдзячнае,
каб мяне ад мяне ж
абараніць
і апраўдаць
перад Айцом Нябесным...

* * *

Надзея маўклівая.
Затоенае дыханне.
Трапяткі й сурочлівы час —
абуджэнне душы,
гнятлівай тугой
прыцярушанай.
Нараджаецца цуд.
Каб жа толькі прасторы
мне стала
Сусвету гулкага
дар жыццядайны
прыняць…

* * *

Як памагчы той кволай
завязі духоўнага,
схаванай у душэўным,
якім сеецца напачатку
кожны век чалавечы,
памагчы,
каб вызваліць Існае?..

Пакутна і радасна
шукаю штодня адказ
на адведзеным мне кавалку свету.

* * *

Углядаюся ўглыб свае душы,
зашчэмленай жорнамі тугі.
Цемраю сонечны дзень перацяты.
Паволі гасну
і быццам
знікаю,
але ж яшчэ знаю,
што
ўсё існае нараджаецца ў пакуце,
бо аднойчы,
— і мяне ратуючы,—
быў раскрыжаваны
самы светлы ў Сусвеце
Чалавек...
І вось Ён падыходзіць да мяне.
Клапатліва аглядае лампаду
майго быцця.
...Нараджаецца лагода.
Асанна!

* * *

Сусвет распасцёрты над лёсам маім.
Жыцця светаноснага крыж
уздыхам адным працінае глыбіні вякоў.
Абноўленай існасці шлях
рыхтуецца ў ранак Хрыстоў...

* * *

Зрушацца няўмольныя пласты,
зліюцца вымярэнні ў адно.
Часу незваротная хада
навярэджанай душы саступіць,
як дашлецца раптам
прамень адтульнае ўвагі,
Покрыва ўцехі мудрае —
ласкавай лістаношы Вечнасці.

* * *

Прамяністае імгненне —
чуйны вечнасці лісток,
падхоплены рукою Мастака,
скіруе дзень у цішыню —
на шлях да светлае сябрыны.
19.11.90

**Жыццё**

У адказнай той вандроўцы
зведае амаль што кожная душа
дзёрзкай завязі спакусу —
па ўладзе гордай смагу
ды прагу здрадлівую самасці.

І толькі літасцю адной
Хрыста, за нас распятага,
душы-бунтарцы мо удасца
пыхлівае свабоды
                        муры абрынуць.
Спазнаць аковаў слодыч,
у ланцугах — размах крылаты,
паслушэнства —
                крынічны
                                вольны
                                        І шлях.

* * *

Прывід кволай самастойнасці.
Чалавечая няўдзячнасць —
замах на дар жыцця.
І ўсё ж,
        мабыць,
спакушаныя й абяздоленыя самагубцы
ахвяры шматаблічнай гардыні —
зноў
        вымольваюць у Айца
пакаранне-узнагароду: шлях зямны,
каб увайсці ў паратунак —
                удзячнасць светлую..

**Ускраек тысячагоддзя**

Не натоўп -
 зморанае, разгубленае чалавецтва
узыходзіць на ганак.
Вось-вось бразне клямка.
Расчыняцца дзверы.

У некалі абяцаны ратунак
нарэшце мы ўваходзім.
Толькі -
 ці ўсе?

Хрысце, даруй нам, няверным,
 нямоглым,
за бясконцасць пакуты Твае...

* * *

Сваім
слабым, мітуслівым словам
спрабую выказаць тое,
што выгаворваецца
адно цішынёю вачэй,
адчыняецца нязмушана,
пакрысе спеліцца часам,
а ва ўладзе паспешлівай натугі —
 згасае.

## Зямля

Апякуюць анёлы калыску
Бацькоўскіх надзей і трывог.
Вялікаснай міласцю
дбайна агледжаны
лапік Сусвету.
Хрыстовай крывёю асвенчаны
у зорную Існасць парог.

* * *

Абуджаны ў пакуце дух,
пакутай нараджае сябе далей.
Абраннік светлае сцязі,
палоннік вечнае тугі
імкне па стромкім часе.
Вышэй, далей, вышэй!
Туды, адкуль на подзвігі зямныя
дасланы жыццядайным Словам быў.

## Услед Асі

А дзяўчынка кветачцы кожнае рада была.
Сем гадочкаў, што сем кароткіх дзянёчкаў,
сама пялёсткавым траўнем цвіла.
Ой ты, салодкая вішанька, у садзе жыцця,
што ж так хутка, так хутка ты
васільковае поле долі свае перайшла...
3-4.10.90, Масква

* * *

Абняла сясцёр —
Горыч і Роспач.
Лагода
сумны распавед слухала,
са студні ваду насіла
ды па хаце рупілася.
Не абяцала, не дакарала,
адно мудра ўсміхалася
і ціхая бачыла ўжо,
як заглядае ў вокны
новы яе вырай,
а ім, гаспадыням,
тут векаваць ды яе,
Светлую, анямелым
па новай вясне дадому
ч а к а ц ь .

* * *

Настойліва
ірдзяная рабіна
хіліцца ўбок ад
іржавай смяцяркі —
да вясёлых арэляў,
дзіцячай забаўкі,
жорсткай у шалах руху.

Мроіцца:
крохкае голле,
ягада выспеленая
гатовы вытрываць боль —
толькі б пазбыцца
не с в а й го суседства.

**Часу келіх**

Глыток бясконцага памкнення
у плынным келіху чакання —
то не блізнятак-хвіль адлік —
агністае, пякучае трыванне
над вогнішчам заўзятым,
ці дажджавое кроплі ласка
паныламу, прывяламу лісту.
А можа, толькі мроя, летуценне
у плынным келіху чакання
глыток бясконцага памкнення...

* * *

Уначы і ўдзень,
узімку і ўвосень —
заўжды.
На ільняным палетку
вышыванага мамай абруса
зіхацяць васількі.
Сціплыя — нябесныя —
кветкі Айчыны маёй.

* * *

Стрэліся:
дзве пакуты,
два маўчанні,
каб мовіць -
каханне.

* * *

Салёная драбінка рэўнасці
у крыўдзе позняе стрэчы
маўкліва дапытваецца
пра талент пяшчоты.
Ёй, мулкай, шчэ не відно,
як сваім голасам мкне
па-над крыніцай, дзе смагу
у ціхай урачыстасці
наталяюць д з в е пяшчоты.

* * *

Ці чуеш?!
Хіснуліся некуды ўбок
арэлі гамонкі нашай,
выцяліся балюча.

Шматслоўя цяжар —
перацятая рухомасць.

Сумую заўжды па
непасрэднасці галубінай
у шчырай пrасторы душы.
Ці чуеш?!

* * *

Хай не народзіцца тая надзея,
якой суджана стаць падманам,
чарговай выбоінай на тваёй сцяжыне.

* * *

Счакай. Не мітусіся.
Хай рунь зялёная
твайго даверу кволага
абудзіцца ў жыццё.
І я прыйду.

* * *

Там, дзе мяне чакаюць,
але не рады будуць мне,
чаму прыпыняю крок?..
Адчыненая брама
просіць гасцінна —
у непагадзь і грамы
там, дзе мяне чакаюць...

* * *

І зноў твой дзень абміне
маю агністую пяшчоту,
мой дзіцячы давер.
Абміне мой ціхі голас,
што ў пакоры распавядае,
як тужліва й самотна мне —
без цябе.

* * *

Змагласся стыхія,
акрэсліліся берагі.
На зялёных паплавах
майго пачуцця
пытаюцца пра цябе
кветкі ціхай пяшчоты.

* * *

Пазбягаю сустрэчы з табой,
каб не аслабнуць у шчасці.
Пазбыцца баюся свае
ненавіснае самастойнасці,
сястрою-пакутай пакрысе
на жыццёвых загонах здабытай.

* * *

Праціснецца скрозь
шчыльную заслону журбы
залацісты, вірлівы прамень.
Назавецца тваім імем.
Кранецца тваімі вуснамі
збалелай маёй душы.
Калі?!

* * *

Абапал майго неспакою
туляцца розныя птушкі.
А яго не відно.
Дзе ты, мой белы бусел?
Святочны, ці завітаеш?

* * *

У цішы добра чутно, як
набрынньваюць жыццёваю сілаю
зялёныя жытнёвыя каласкі,
а ўсмешлівыя васількі шчасліва
перамільгваюцца з мройнымі аблокамі
над чуйным палеткам
нашай агульнай долі.

Слухаю вячыстую цішыню,
чую, як прарастае лёс.

* * *

Атуленае тваімі далонямі,
скрушлівае семя мае самоты й тугі
раптам успомніла, што калісь
у і н ш ы м засеку прытулак мела.

А не сцюдзёна абдымкам тваім, любы?

* * *

Хіба ёсць у лёсу
трывалей строі
ад зрэбнае кашулі,
шытае з вытканага
на суровых кроснах долі
                                        пачуцця?
Ільняной апраткі,
                                        адбеленае
працалюбівым сонцам
і шорсткаю плынню часу...

* * *

Шаргатлівай лісцёвай парою
у зажураным восені дні
не знаходжу нат хісткае кладкі
да бездані зямное ростані,
лёгка адоленай мною ў сне...

**Паядынак**

Пекла й рай,
дабро й зло,
цемра й святло —
усё гэта я,
тое ражно,
што папярок устае
Боскай святое задумы
аб чалавеку
21.04.90, Бялград

* * *

Усім нядобра а чацвёртай раніцы.
*Віслава Шымборска*

Не люблю прачынацца
на рагу начы і дня.
Прымхліва скаланаюся
а чацвёртай гадзіне,
чужая пасярод
насамотненых зор,
натомленых ліхтароў,
нерухомых арэляў,
перапыненых сноў.

Не ведаць бы мне,
як а чацвёртай раніцы
засынаюць навек —
адлятаюць навек...
10.02.92

* * *

Зялёная галінка душы —
нямая сведка замовы
віхурыстага памкнення
з марудлівым здзяйсненнем
мусіць ці не штодня
страсаць попел нябыту...

* * *

Спрабую даўмецца, чаму
быццам бы і сагрэтая горнім,
самотная душа натужліва
шукае цяпельца дольняе.
Ды анёл ціха падказвае:
«Глянь, вунь тваё горняе
б'ецца крыламі аб столь
цеснай чалавечай галубятні.
Цішэй шукай дзверы —
у с я б е » .

* * *

Чую, як вопытная пакута
марна грукае ў браму
са змогі й стомы.
Каб жа й яна змаглася...

* * *

Натомлены, прывялы шлях
маіх адчуванняў, звыклых абставін
натужна спяшае за маім днём.
Дзень жа сумуе па порсткай дарозе,
якая аб стоме не чула ніколі:
адно вольна цячэ сабе ўглыб
чалавечага лёсу й агульнага часу.
Баліць...

* * *

Раптоўна адчуецца:
прадонне ўласнай душы
шмат глыбей і страшней
за багну, ля якой увосень
журавіны люблю збіраць.

* * *

Маю збалелую матулю,
бы Беларусь
пакутніцу-шыпшыну,
па чырвоным ходніку
вядуць
ласкавыя анёлкі.

Верую:
травой зялёнаю збаўлення
барве горкай прарасці.
17.05.91

* * *

Вогненная сутнасць свячы
мроіць маўкліва
аб палымяным дотыку,
каб урэшце спазнаць
імклівасць узыходжання —
свята здзяйснення лёсу.

Мо гэтак у кожным з нас
гарачае немаўлятка духу
натужліва трызніць аб крылах,
каб у час скарыстаць
сваю спрадвечную сутнасць.

Ды руйнотны вецер шалее.
Сівер марозіць глыбіні.

* * *

Цярністая пакута —
спадарожніца верная
новае вялікае страты,
вострым плечуком
лёгка цесніць
прыціхлую папярэдніцу
колісь, здавалася,
неадольную валадарку
цэлага свету.

* * *

Ля студні маленства,
пад хатай з бярвенцаў,
натолены ўдосталь
бруістай вадзіцай,
барву церпкую спеляць
у лісці зялёным
зялёныя гронкі
агністай каліны —
матулі рукою
пасаджанай.
*16.07.91, Дараганава*

* * *

Ад краю да краю Лёсу —
то цесная сцежка,
то прывольны бальшак.

Праз зачынены час
зрэдку ўчуеш
сэнс Шляху —
цярпенню ўзнагарода.
*16.07.91, Дараганава*

* * *

Трывай, душа, трывай!
Заўжды навыраст строі
і занадта бы пакутнае аздобы
жыццю, дасланаму ў свет,
дзе горняга й дольняга
таемнасна спалучаны
залевы духатворныя.
Трывай —
няма другога шляху
у росныя блакіты.

* * *

Разгорнутыя клапатліва
у спагадзе шчырай
аб раллі маўклівай,
перагукваліся далячыні.

Намерала сабе дзялянку
сейбіт легкадумны.
А цяпер выпінаюся
з сіл астатніх, каб
не пагінула без вады
бездапаможнасць кволая
мне па вясне давераная.

* * *

*Гаяне*

Пяшчотны дотык вачэй тваіх
Дорыць мігценне Святла.
І збалелае слова
ахінае
золак жыцця.

*25.05.89, Масква*

* * *

Стыхія слова, колеру й гуку
у нябачнай шчэ імклівасці
над кожнаю душой віхурыць,
шукае ўвахода, каб натхнення
іскрынка творчая заззяла
у істоце чалавечай — Божай...

* * *

О вы,
лагодныя пакутнікі,
ласкавыя самотнікі.
Вы — абраныя,
чый сталы дах —
нябёсы расхінутыя.
Чый светлы лёс —
са Хрыстом сумоўе.
О вы,
шчаслівыя пакутнікі-самотнікі,
не пакідайце тут астуджаных,
насуперак
спрадвечнаму каменню
пад нашаю рукой.

* * *

Неўпрыкмет
праз гушчар самоты і абавязкаў
сцежка вывела на паляну,
дзе шмат лагоднага сонца,
пяшчотяых колераў кветак,
духмяністых ягад суніц.

* * *

Напятую струну твайго чакання
Шапэнаўскі накцюрн аблашчыць
Сутоння залацістаю тугой...
І далягляд пасунецца ўглыб
Змарнелае, застыглае душы...

* * *

У падстрэшшы
гарадскога муру,
над мітуслівай грамадою —
натоўпам адзінокіх і сагрэтых лёсаў
пад апекай Майстра
шчыруюць колеры, анёлы...

* * *

Скрозь кожны дзень
у ціхай лагодзе
я б хацела праходзіць.
Лагодзе, здольнай
пачаць і завершыць справу,
усміхнуцца дзіцяці,
зялёнаму дрэву і кветцы.
Лагодзе, якая ўмее
суцішваць стыхіі.
*21.04.90, Бялград*

* * *

*М. Бушчыку*

Усцешана даверам,
бы шчырым позіркам
дзіцяці,
Мастача, я вітаю
нараджэнне Свету —
жарынку Боскага натхнення
у колераў шчаслівае сустрэчы..
26.02.92

* * *

Ёсць людзі,
у якіх уваходзіш,
быццам у Храмы...
Дзе льецца святло
і прарастае
увачавідкі
зямля ў Неба...

* * *

Страта існага —
зацятасць квадратаў,
абыякавасць авалаў.

Выбіраю расхінутую прастору,
дзе цярпенне ўводзіць у цуд,
а цуд мацуе цярпенне.

* * *

> ...я не магу ісці са злом,
> Бо я жыву у чыстым часе,
> у безупынным, вечным шчасці
> бо я заўсёды — са Хрыстом...
>
> *Зьніч*

Сумовішся ты з іншым часам —
усёахопным валадарам
дум, памкненняў і надзей.
Усмешліва піеш —
гаркое і салодкае
з кляновае, зямное чашы лёсу.
Піеш лагодна, бы
аднекуль добра знаеш край,
дзе восені зацятае не ведаюць
праменныя галінкі і лісточкі.
Ты жывеш у іншым —
ч ы с т ы м часе.

* * *

Таму,
хто навучаны ўсміхацца
на чарэні чакання,
у абцугах абяцання,
шмат скажа
нат гул прадчування
і цень далёкае залевы.

* * *

Адчыняецца Неба насустрач
маленню пра сябра.
І старыцай вяртаецца ўласная сіла,
тады, як ужо не чакаеш падмогі,
а толькі плывеш
настойліва-ціха
шляхам
агульнай
пакуты.

І дбаеш аб тым,
каб
хапіла дыхання другому
уліцца ў Вечнасць
і пазваць за сабою...

* * *

Дзень да дня —
і вось яшчэ адна
слязой амытая прыступка —
шчырая выява вернасці
жыцця, ізноў здабыўшага сабе
працяг зямной сцяжыны
сваёй даверлівай мальбою —
у журбе, ціхмянай, светлай...

* * *

Якою мушу быць,
каб не здарожыцца раней часу
і не спазніцца на сустрэчу з сабою?

Што мушу рабіць,
каб спраўдзіць наканаванае ад веку,
ды не заблытаць свой лёс,
а Спатканнем шлях зямны завершыць?

Маўклівы прастор. Цішыня.
Зялёныя парасткі Надзеі.
*15.04.90, Бялград*

* * *

Пабольшае прасторы ціхае.
Выбаўлюся ўрэшце з няволі.
Спытаюся ў халоднага люстэрка
пра новыя срэбныя сцежкі —
водгулле пякучай завеі,
што недзе паблізу затаілася.

* * *

Пакуль дрыготкае здзіўленне
у чуйнасці сваёй не зможацца
адкрыццём ранішнім, вясновым
душу зямную хваляваць —
прымаць удзячна нам
жыцця вялікаснага плынь,
празрыстай яснасцю кранутую,
бруістую у плёскаце стыхій.

* * *

Пасля,
ужо пасля ўсяго,
як выпарыцца кропелька
майго нясмелага жыцця,
пазнаю я, што розніцы няма
паміж бурліваю вясною
і ціхай восені хадою,
бо ўсё — нат век — імгненне,
водбліск зорнае стыхіі.
І мы спяшаемся, ляцім
у неўміручыя прасторы —
бясконцасць вечнага
цяпер.

* * *

Марудны той разбег.
Вялікай птушцы крылы
быццам замінаюць.
Не даецца разам вышыня.
Учэпіста, уладна дзержыць
набраклая залевау зямля.
Не даецца вышыня,
а іншыя ўжо лятаюць...
Прынадаю, спакусай гострай
імклівы шлях угору,
а доўжыцца разбег...
Ды вялікай птушцы знаць:
пакрысе спеюць высі
і крылы крэсляць ШЛЯХ.

* * *

О, Госпадзе,
Ісусе Хрысце!
Абарані Сябе Самога
У хадзе няўдзячнай нашай.

Спустошанай раллі
Не дай загінуць.

Веры ратавальнаю расой
Аддзяч няўдзячных,
Міласэрны Божа!

**Троіца. Духаў дзень**

*15 чэрвеня 1992, Менск*

Святочная
Дуга завету Божага
услед магутнае залеве
па надвячорка чыстым ззянні
пра моц і вернасць Слова
напомніць пасцяшае тым,
хто шчыра жджэ,
нібы з каўчэга Ной адданы,
знямогі морак змогшы,
у сіл таемнасных ратунку —
на беларускае гаротнае
зямельцы, шыпшынавым
адзначанай і кветам
і цярном...
*6.07.1992, Дараганава*

* * *

Увосень на плёсах рачных
страсаюць сурова вятры
ускраек нябёс і зямлі —
жалудамі саспелымі.
Іх прагная плынь паглынае...
Іх ласкава зямелька прымае
ды карэньчыка рухам
аднойчы нябёсам вяртае...

Так лёсу людскога імгненні
знікаць у вірах пасцяшаюць або
святлом у Сусвет прарастаюць...

* * *

*У вянок Алесю Адамовічу*

У смелай, палкай спрэчцы з тым,
што часу, веку замінала
цячы, гучаць — высока чыста,
прывольна лёс вяршыць
у рэчышчы адпушчаных гадоў —
было жыццё Яго — як светлы дзень
без права на знямогу чалавечую,
з наканаваннем боль, журбу ды скруху
там бачыць, і трываць, і несці
дзе сіл, відушчасці і слоў
другому не ставала...

О смутак ссірацелае радзіны...
Заснежаны абшар Радзімы.
Зямля збалелая бацькоў,
прымі заступніка свайго...
30.01. 1994

**На кладах**

Да крыжоў, да грудкоў,
шчымліва прывечаных
стужкамі й фартушкамі,
спрадвеку прышчэплена
спелая в о с е н ь .

* * *

Беламу наліву,
шчэ неналітаму,
надта рупіцца
гучна скочыць
на дол утравелы.

Вецер кранае
галіну натомленую,
а жанчыне,
журбой напоенай,
адгукаецца —
л ё с а п а д.

* * *

Прыкмячаю часам, як аднекуль —
з глухіх глыбінь, ці зіхоткіх вышынь
маё вечнае "я" вельмі выразна
пасміхаецца з таго майго "я",
што ўвасоблена, ці зняволена
у вярыгах слабое плоці,
няздольнай зычліва абараняцца
ад гнёту штодзённых варункаў —
лагодным даверам вечнай
ЛЮБОВІ.

* * *

Бунтоўнай стыхіі
мецьбы ўсё разам —
і ветах, і поўню, і маладзік.
Прагным глытком асушыць
гарачую чару да самага дна.

Завязь сыплецца долу,
студзіць паспешлівасць
р а с ч а р а в а н н е м .

**Сустрэча**

Непакоюся — ці ж можна
гэтак шпарка ісці
па той аперацыі,
як сэрца трапятала ў руках,
хай сабе й добрых людзей...
А яна лагодна ўсміхаецца
і аблашчвае мой неспакой,
што пачуваецца слаўна
ёй ужо колькі гадоў —
яна ўмее нават л я т а ц ь...
Ідзём побач дарогай
да блізкіх Птушычаў —
услед ціха сумуюць
яблыні й вішні ў садзе,
маміныя язмін і каліна
і нашыя суседскія хаты
на ўскраіне Дараганава...
Не чую ўжо шэпту
любімых клёна і ліпы —
захоплена слухаю суразмоўніцу.

Раптам —
сілком перарваны шлях,
сцежка, выхапленая з-пад ног.
Дакор раніцы
у сынавых мілых вачах:
"Што рабіць сабралася т а м
у птушыцкім сасняку,

дзе й так ужо цесна
маўклівым насельнікам?..
У цябе ж клопату досыць,
яшчэ нязбытага тут —
на градах жыцця..."

* * *

*Ніне Мацяш*

Пра ўладу кволае рукі
над кіпенем быцця —
агромністай ракою
бязлітасных віроў —
гаворацъ строга і ласкава
твае агледзіны душы.

Радкі надзейнымі мастамі,
што адгуканыя шляхі,
вяжуць, ратавальна лучаць
розных вымярэнняў берагі.

Шчаслівай долю называеш.
Межы немажлівасцей касуеш.

* * *

Нам, спадкаемцам Садома і Гаморы,
упэўненым у сіле чароўнага мастацтва,
жыццёвае шчадроце хараства і
прыгажосці,
мо і ўдасца выбавіцца з гора —
Усявышняга спрадвечнай ласкай
хоць бы аднаму-адзінаму пустэльніку,
чужому свету гульняў і
далёкаму спакус сцвярджэння.

Трымае цвердзь нябёсаў
самотны малітоўны дар.
*25 — 26. 04.1992. Вялікдзень*

**Сонца**

Шкада, табе не відно, як заходзіць сонца...
*(з размовы)*

Сонца, маё сонца, яно,
працалюбівае, узыходзіць звычайна
па-над усходняй менскай ускраінай.
Нібыта і не вогненны палкі дыск,
разварушаны дзённым рупескам,
кранаецца сасновых вершалін
і сунецца вышэй па далягля́дзе
над сумнай геаметрыяй гмахаў
і ацалелымі цудам яблынямі
з колішніх садоў Зялёнага Лугу...
Сонца, маё ўвішнае сонца, яно
паспявае за коламі й крыламі,
каб святочна лучыць і славіць
невымоўную запаветную Каложу
у горадзе мары Гародні
і стромкі храм Святога Марка
пасярод сербскага Бялграда,
па якім нельга не летуценіць...

Сонца, маё адзінае сонца, яно
смела вандруе па небасхіле,
гаспадарліва аглядае абшары,
але ж штодня адпачывае яно,
маё відушчае свяціла,
толькі ў лясным Дараганаве,
дзе за суседнімі Грушынамі —
Камарына, Мязовічы і Крынка...

Дакладна ведаю ад нараджэння:
праменьчыкі стому страсаюць
не ў слаўныя Нёман або Дунай -
у Пціч, якая плаўна абмінае
маміны Халькі і Сялец ды Краі...
Пад зрэдку насупленымі
брывамі зялёных берагоў —
найласкавая ў свеце рака...
Маё сонца бавіць
кароткую летнюю ноч
толькі ў верасах
пад Д а р а г а н а в а м.

* * *

*Сябру*

У мяне, смяротнай,
пытаешся пра тое, што ведама
толькі Неўміручаму, Дасканаламу
і Таемнаму нашаму Богу-Бацьку,
воляй Якога разгорнута
дзівосная мапа Сусвету
з горнім і дольнім паверхамі.

Пэўна знаю адно:
дарэмна чакаць прызнання
нябёсаў абранніку
у цяснінах чалавечага шляху.

**Трынаццатага снежня**

Ізноў ён —
куртаты дзень, светлая шчыліна
у валадарстве начы на схіле году.
Ён, зацярушаны снегам, ахінуты цішай
спрацаванага абшару застылай зямлі.
Ён — доўгі, вузкі і слізкі масток
па-над вусцішнай пространню памяці.
Чапляюся за адмысловыя парэнчы
неадкладных спраў, абавязкаў,
звыклых гамонак, чужога смеху.
Адступіцца ізноў страшуся
у неахопнасць невымернае страты.

Штогод змушаны быць
маім катам, ліхою жудой
кароткі дзень доўгае пакуты.
Да скону?!

* * *

Мой самотны паэце,
у ліловай прасторы ліста —
шчырага пошуку праца.
Вольныя парасткі існага
пакутай спапеленых глеб
жывыя крыніцы — знаходзяць.

* * *

Красуе без меры —
ашуканка-чужына!
Разварушаны грунт
і аддадзены сілы.
Дранцвее гародчык
пад водарам п'янкім.
У нязванай госці,
раптоўнай кветкі —
не шукайма спагады!

* * *

І кожны міг
яго астуджанай раллі
нашэптвае з далёкай далі,
што пра давер зусім ужо
забыць належыць ёй,
апрыклае гарачаю пакорай.

* * *

Голасам гучным
пра дзве маланкі,
пра два грамы —
скаланулася ноч
у маім двары.

А поўня маўчала.
І пялёстак вішнёвы
не апаў да пары...

* * *

Непрыдуманы...
недасягальны...
Пяшчоты глыток
шчырая ластаўка ў дзюбцы
мо шчэ калі
прынясе...
па нясмелай маёй...
па нашай вясне...
прынясе...

* * *

*Дануце Трыбухоўскай-Шпрынгман*

Добра знаёмаю сцежкай, як некалі
з прасторнай бацькоўскай хаты
у польнай сваёй Гаслаўшчыне, —
вось гэтак цяпер імкнеш
з маленькага Парыжу на Эльбе:
чароўны, манаршы Дрэздэн,
вабнасць Саксонскай Швейцарыі!..
Мінаеш, атуленая накцюрнамі,
радзіму шляхетнага Фрэдэрыка,
лёгка падпарадкоўваючы сабе
нязручнасці й недарэчнасці межаў,
якія бязлітасна крэсляць цела Еўропы
і нішчаць рухі нашых мажлівасцей.

Ты спяшаеш на чарговую стрэчу,
абмінаеш зачыненыя дзверы,
свабодна ўваходзіш у мае сны,
распаўсюджаныя па адной з цесных
чалавечых шпаковень Зялёнага Лугу,
прынадна аточанага хвойнікамі
з салодка паснулымі вавёркамі.

Ці гэтак жа проста ты знаходзіш
мяне ў сціплай драўлянай хаце
ля Пцічы на ўскраіне Дараганава,
калі не спяць адно таемныя кажаны.

Заўсёды радая табе, як той чаканай
першай кветцы й матылю па вясне,
не паспяваю — марудлівая! — дазнацца,
які ж гэта пільны дзённы клопат
выправіў цябе ў начную вандроўку...
9—10. 10.1993

**Верую**

І ў непазбежную пару адчаю,
калі па рэштках крыла й зярняці
распазнаецца адно пункцірна
траекторыя руху душы
і аглушальна гучыць
маўклівы крык пачатку -
тады шчэ мацней, чым калі,
па наслані шчыльнай імглы
мушу вераваць у паратунак —
чарговае ацаленне жыцця
ЦУДАМ

* * *

Ахвотнік на сцежцы Іова —
Вольны ў мажлівасці выбару,
Жораў, зажураны выраем.

З-за межаў абшару зямнога
Прадказаны крок —
у н е п а з б е ж н а с ц ь .

Жвірам пасыпаны шлях
Босай спазнаеш нагою —
Абраннік на сцежцы Іова.

* * *

Па ўсведамленні залежнасці
слабой тваёй існасці
ад Сілы Гасподняй,
што зменіцца наўкола,
палёгка якая пашлецца,
ну, асабіста табе?
...Спакуслівы прыцемкаў шал
спрадвечнае здрады сіло.

Сэнс:
Гаючая сіла вяртання
да Першакрыніцы — Хрыстова Крыжа,
Гасподняй расплаты Сабою.

* * *

Губляе ў смутку лісце сад,
Калыша рэзка вецер голле.
У ростані глухой мая туга
Зрастаецца з тваёй тугою.

У час губляе лісце сад.
Рыхтуюцца карэнне і ствалы
Да стрэчы новае пары.

О смутак, боль апалага ліста,
Ласкі нямоўленае дотык...

У час губляе лісце сад.
Па звонкай ростані мая душа
З роднаю зрастаецца душою.

Калыша ветла вецер голле.

## Мілавіца

Над гуртам празрыстым бярозак -
рухомаю графікай восені —
уранні самотная зорка стаяла.
Дзівілася зорка зялёнай раскошы
І зыркім пялёсткам фіялак.

Над гуртам празрыстым бярозак,
над зоркай, самотнаю, вечнай —
малітваю ранішняй светла
жанчыны ўдзячнасць спяшала...

А зорачка, мабыць, у вокнах,
дзе кветкі палаюць лілова,
дзе моляцца й вершы страчаюць -
штось мела здалёк папытаць...

Жаль зоркі, дзівоснае, мілае той —
растала ў яснасці звыклага дня
па слову апошняй малітвы яна.

* * *

Скрозь маміна вакно гляджу
Зялёнымі мамінымі вачыма.
Стараюся — маміну печ бялю,
Маміны грады шчыра вяду,
Бялізну ў Пцічы палашчу —
Мамы рукамі натруджанымі.
Маміны кветкі маме нашу.
З мамінай чашы слязу лію.

* * *

Крыжы залатыя — раскрылены рукі.
Пагорак... Храм — як бусліны разбег
У высокае неба Айчыны.

Звонамі звонка-густымі
Пазбаўленай волі рацэ
Храм над Нямігаю вестку,
Светлую вестку нясе:
Пад шатамі цвердзі зямной
Час шчэ марудзіць, цячэ...

Крыжы залатыя — раскрылены рукі.

* * *

Ты Сам пераводзіш стрэлкі гадзінніка
бясконцых сусветаў, таемных лёсаў.
Ты Сам — Віфляемская чаканая зорка,
запаленая над прачыстай дугою
вялікаснай дамовы з чалавекам,
Ты Сам — Непазнавальны, Усяісны,
кожнаму зычыш Свае перамены,
еднасць ў Святле абяцаеш.

Вынайдзі ж апраўданне і мне,
чэмернай, горкае кроплі
у шчодрай задуме пра чалавецтва,
мне й ўсім, каго ў сэрцы трымаю,
і ўсім, каго не маю любові
у малое сваё сэрца ўмясціць —
вынайдзі, Божа, мне апраўданне
на шляху да Твайго жніва.
Можа, не пераведзены шчэ стрэлкі...

* * *

Ах, гэта страха самоты…
*Ян Чыквін*

Глянь:
імклівакрылая руплівіца-ластаўка
засяроджана ладзіць гняздзечка.
Святліцу шчаслівых надзей
лепіць з глею і гразі якраз
пад страхою твае самоты.
Пастылыя глей і гразь —
падворку зямнога, крутога!..
Святліца шчаслівых надзей!..
Глянь:
глей і гразь падворку зямнога
дыяментамі ззяюць у высях —
насуперак страху самоты!

* * *

*Гаяне Джыгарханян*

Пад плоймаю вірлівых парасонаў
ранняю парою сакура цвіце…
Слязу самотнай Чыо-Чыо-Сан
на згорнутых пялёстках вішні
з падваконня — мая фіялка сцеражэ.

* * *

На свет паменшала ў белым свеце -
Сыйшло святло матуліных вачэй.
Скрозь час бяссоння і самоты
Выбельвае мне шчасны край,
Дзе ростані нясцерпнае няма
І свет не меншае раптоўна.

* * *

*Сыну*

Змяркання дрогкі чын
плыве ў вечных строях.
Самоціцца сасна на ўзлеску
пад неба зменлівым абрусам.

Сцежка колераў таемна ўецца,
мігціць ўзнёсла акварэль.
"Чамусьці зноў сутонне...", —
здзіўляецца мастак уголас.

Што ж рана так нязбытная туга
людской сябрыны кволай —
с в а ё й сябе тут пачувае...

* * *

Всё же я смею думать,
Что вам только пятнадцать лет...
*Аляксандр Блок*

Самотны паэт трагічнага часу
на пачатку асмяглага веку
шчыра раіў юнай дзяўчыне,
каб Ліза, а яна шчэ не была
ні паэткай Кузьміной-Караваевай,
ні самаахвярнай Маці Марыяй,
спагадліва раіў Лізе
пакахаць чалавека, якому б
жывыя зямля і неба
былі б даражэй за
вобраз зямлі і неба.
"Трагічны тэнар эпохі"[1]
не ўчуў, што ёй, добраахвотна
прыкутай да пошуку Сэнсу,
наканавана іставa адпалаць
ва ўсёабдымнай любові
да зняважанага чалавечага роду,
каб паяднаць зямлю і неба
у вобразе святой міласэрнасці.

[1] Анна Ахматава

* * *

На золку сон — мой крок,
не патрывож няўзнак таго,
хто шчэ ў салодкай мроі
да дня юначага свайго
збірае бестурботна сілы...

А мне, абуджанай журбой —
пра першы сонечны прамень,
трымціць шукаць святла,
каб ацаніць свой
у ч а р а ш н і дзень.

* * *

*Дануце Трыбухоўскай-Шпрынгман*

Лагодзіла ружы паціху вада,
пялёсткі ва ўпругае сіле,
тчэ тайну сваю зберагалі...

Запавольвала рух самалёта
няйначай чаканне здапя...
З тэатральнага сквера абцасы
філфакавак юных чутны.
Перарывісты такт ва ўнісон —
услед па жыццю з перасадкай.

Бывала, пазніўся трамвай,
а часу ставала на ўсё —
упругая сіла душы
спяшалася дзеяю стаць...

Лагодзіла ружы паціху вада —
чаканне гукала здаля.
5. 07. 1994

* * *

Пьета ад Нотр-Дам...
Ці ж знала я тады —
ціхаю вястункай жальбы
выява светлая Марыі
рукою пілігрыма-мастака
пакладзена ў маю далонь...
Не знаў і сам мастак,
Парыжа ўсмешкай акрылены.

Па белых, стылых матылях
да жвавых махаонаў жніўня —
жыццё пражытае наўзрыд.

Апошні дотык да вачэй —
далонь кранула Вечнасць.
Тут нараджалася ў смерць
асірацелая дачка й маці.
Тут вечнасць Боскай мілаты
над хатай, грушападам
зрасталася са слабаю душой.
Пьета ад Нотр-Дам —
Марыі мілажальнай лік...

## Госць

Акно было адчынена.
І госць прыйшоў
на чацвёрты мой паверх.
Павітаўся перш з фіялкай,
пасля натрапіў на лісты.
Гартаць пачаў ён звыкла,
як без розніцы яму было,
што гэта не бярозак голле,
кнігі прозы, кнігі вершаў.
Ласкава кратаў і шаптаў
пра што — не знаю ўжо.

Баялася я госця спудзіць,
твае лісты чытала.

Акно было адчынена
да самае начы...

## Чарніцы

*Масею Сяднёву*

Адкуль мне ведаць, ці ёсць
баравыя лясы з бярозамі,
дзе спрадвеку растуць чарніцы
паблізу таго невераемна далёкага
месца, што завецца Г л е н К о ў,
і сам гэты назоў мне на слыху,
бо там жывяце Вы з сям'ёю
і з Вашымі вершамі, а таксама
з усімі шляхамі й сцежкамі,
якія пачаліся, разгортваюцца й вядуць —
на Магілёўшчыну.

У Глен Коў жывяце Вы —
Прагны святла й хараства,
замілаваны цудам жыцця.

Хацела б пачаставаць Вас чарніцамі,
што растуць за дарогаю,
зусім побач бацькоўскае хаты
у лясным маім Дараганаве,
што між Асіповічамі й Старымі Дарогамі.
Вядома, яны не такія салодкія,
як недзе блізу Вашага Мокрага,
у іх, пэўна, меней і сонца,
таму адразу прашу прабачэння.
Чарніцамі з ягаднікаў маленства
хацела б Вас пачаставаць,..

* * *

Калі званы святочна збіраюць
па ўсім-усенькім нашым краі
на літургію верных Крыжу,
чую царкву над маёю ракою —
у ранку празрыстым, святым,
абуджаных бомаў густых
звонкае срэбра наўкола.

Гэта вайною пабураны Храм
склікае ўвесь свой прыход немалы,
што пад бярозамі й саснякамі...

Праз масточак, якога даўно ўжо няма,
паспавядацца й Ахвяру прыняць
спяшаюцца мама з бабуляй.

Наводдаль стаю, узіраюся ў твары —
не зважаюць, не хочуць сваёю прызнаць.
Званіцы завуць — агністая зелень ваколіц.

* * *

Ранкам
Белая вуаль туману
Сонцу паслухмяная была,
А верасень стаяў зялёны...
І накцюрн Шапэнавай тугой
Маю салёную тугу адольваў

## Ода кафлянай печы

І падлога, і столь, і сцены,
паслухмяныя волі гаспадара,
услед ганку цярплiваму, што
не ўскінуўся пад незнаёмай хадою,
змушаныя былі зацята трываць
у акрэсленым сабою прасцягу —
чужыя вочы, дотык і крок.

Раздражненне хавалася адмыслова,
а панавала нат на халодным падворку
і заглядала цішком праз шыбіны.

Толькі кафляная печ, нібыта
і суладная ўсеагульнай нязгодзе,
сабой надвячоркам сагрэла аднолькава
нязвыклага гаспадара й званую чужаніцу
у яе нечуваным прыйсці.

Яна — кафляная печ — каханка агню,
а ён завітаць толькі госцем мог да яе
і аддаваўся спатканню шчыра ўвесь, —
наталялася жарсцю шчаслiва, але
утаймоўвала полымя ў самы час.

Яна — кафляная печ — тайна спрачалася
з тым, чаму належнай сама была.
Кафляная печ спачувала д в а і м,
што паасобку сядзелі...

## Акацыя

Ситтимовое дерево изъ породы акацій
*(Исх.XXV,5; Ис.XLI,19)*

Госцяю выдаеш сябе
побач з бярозай і ліпай,
недаверлівае дрэва,
шанаванае самім Саламонам
у яго вялікасным Храме
спаміж кіпарыса, мірты
і кедра ды іншых абраных
дрэў у сонечнай Палесціне.
Абачліва-мудра вычэкваеш,
калі ж завеі суцішацца
задушна-духмянай чаромхі —
спадарожнікі сталыя
прымаразкаў вясновых,
свавольства грознага
у лёсе квета з лістом....

А мне няймецца ў трывозе
аблашчыць стан пакручасты.
Няўжо зімовыя сцюжы
у глыбінях твой корань
працялі наскрозь і абыякавае
дарэшты табе тут усё, што
разгортваецца, спадзяецца й верыць,
і адляцеў твой таемны дух
з-пад шатаў мае Айчыны,
ад бярвёнаў бацькоўскае хаты

у вечным маім Дараганаве...
Нат подых гэтае згадкі
мяне вярэдзіць тугой,
нязвыклаю й адтульнай.
Я мрою — альбо ўспамінаю?.,
мая рука кранае з пяшчотаю
дрэва-сітцым у даліне Сітцым.
14. 07.1995.

* * *

Ці ж вінаваты верасы,
павуцінаю затканыя,
што не вярнулася
пчала да сотаў...

Гудуць вуллі заўсёдна
у грушавай раскошы.
Жнівень, спелыя ажыны,
пакінутыя верасы...

* * *

У сэрцы прарасці, Галгофа,
і болем боль адсунь
на край, дзе варагуюць
пустазелле й каласы.
Там Новы Запавет
старонкай ратавальнай
маёй балеснае старонцы
даўно спрабуе патлумачыць,
з чаго хварэе час,
чаму хварэем мы...

* * *

Я ведаю, што я памру.
Мо й скора ўжо карэнне,
разгалінаванае калісь
па ўсіх маіх узростах
з-за нейкае нянаскае нагоды,
ужо для іншага чагось —
салёнае, бясконцае работы
вырачэцца тут няўзнак.

Я ведаю, што я памру,
а перш віны пазбыцца за
няўдзячнасць прад Жыццём -
у шчасці мне дазволь.
15.12.1994

* * *

Стомленаму на пралётах
між паверхамі —
з веры ў веру,
нашэптвае вораг
пра тое — як позна,
што кінуты ўжо
насаўсім ты
Бацькоўскаю ласкай,
і перацята дыханне,
і страчаны сілы
для руху — угору,
што й шлях твой —
апалае лісце ўвосень,
толькі чыясьці памылка.

Шэпча вораг,
а побач —
смуткуе і плача
ХРЫСТОС.
15.03.1995

* * *

Якой бязважкае сняжынкі
дастаткова, каб скаланулася
знутры сасны... і мяне...
ды зрушылася з месца голле
туды, дзе ўжо ні зім, ні вёсен
і сохнуць галкі непазбежна,
зялёныя заўжды і маладыя,
такія смелыя на мудрым дрэве.
Жывіцаю зацягваюцца раны.
Але ж маркотна як
і доўга, нудна да вясны яшчэ
чэрпаць вядзерцамі чакання
боль...
8.11.1995

* * *

На слупах Вечнасці
шаты часу развешаны.
Ходзім пад імі.
Над галавой падарожных
шапацяць, ападаюць імгненні,
прамінаюць кляновым лістом.
Спажываем дар найсвяцейшы.
Імгненні любіць і прымаць!..
О, як выпальвае душу туга...

Мабыць,
здзейсненым тут дасканала —
не прамінаюць часы ўжо,
і доўжыцца, доўжыцца Вечнасць
зялёнае Дрэва Жыцця.

* * *

Адтуль,
            здалёк,
дзе яшчэ золак, світанне,
а карэньчыкі Дрэва Галгофскага
да глыбінь перасохлых смела
імкнуць пад ствалом маладым
ахвярнага Дрэва Гасподня,
натоўп праследуе прага:
"Месію, Бога — у ззянні й славе!"

Сёння, на захадзе сонца —
т о л ь к і зіхоткая Чаша
                                    у збалелых руках.
Натоўп вар'яцее ад смагі.

Над зямлёю — магутныя шаты.

* * *

Не падыходжу.
Унікаю стромы.
Здаўна баюся вышыні.
Ды ізноў, як заўжды, нечакана,
апынаюся на краі,
дзе карэннем трымаюцца
амаль за адно паветра,
а рукі-галіны бездапаможна
цягнуцца ўгору.
Строміць знутры.

Але штось ува мне
ужо мацней боязі вышыні.
Ратуе Любоў —
страх за сабой зрынуць тых,
над кім апякуюся шчыльна.

* * *

Падараваны мне ізноў
секунды, хвілі і гадзіны.
На кроснах лёсу час
снуецца мой яшчэ.
Ізноў зямны падворак,
расчынены гасцінна,
прыняць гатовы крок,
мой шлях трываць далей.

* * *

Ён наперад ведае
кожны мой уздых -
не тое, што стогн.
І нешта такое ведае,
чаго мне зараз пабачыць
нельга нават здаля,
бо звыш майго зроку.
Ён - беражлівы, спагадлівы,
а я шчымлюся за ласкаю
і ў пару шарай гадзіны,
што сам-насам мушу адбыць...

Шчаслівая!
Магу сабе дазволіць
уздыхаць і стагнаць -
даверлівае дзіця
                    ля ног
                              Бацькі-Бога.

**Грабарка**

I

Дрэвы крыжовыя
карэннем у сэрцах трываляцца,
а растуць - на Грабарцы.
Знакамі Веры, Надзеі, Любові
людское абсаджаны Храм.

II

На Грабарцы пра Творцу гавораць
і ліпы, і сосны, і вольхі.
Неспазнанаю сілай святой
высокіх кронаў прасякнуты рух.
Іхняе сонца - царква,
Святая Гара - зямны карабель.

**Услед маме**

Пакуль спяць дарагія нашы,
у твой бела-сіні кубак -
залацісты пасак наўсцяж,
наліваю ранкам гарбату
насупраць прыціхлае хаты.
Радая сябе падмануць,
быццам шыб не я краналася,
бачу твар твой у кожным вакне...

Тады ўначы асмяглае горла
не наталіла апошнюю смагу
і найсмачнай нашай вадою,
як ні стараліся вочап, вядро
і я з жураўлём над студняю...

Пяшчотны водар плыве
з лёгкім дотыкам промняў ці рук.
Ураселая мята гусцее
над сцежкай да яблынь і груш.
Залацісты пасак наўсцяж
бела-сіняга кубку твайго...

* * *

На выспе міжчасавай -
чалавечага лёсу порамі,
прысела і аглядаю бязмежжа:
за цэлікамі цярпення
красуюць півоні й бэз.
Над ганкам высокім хаты
у гуле святочным пчаліным
заглядаюць у неба гонкія ліпы -
сведкі нашага штодня,
а ён - побач сваю часіну вычэквае...
Няйначай, прыгожы свет хоча яшчэ
праз нас, шчаслівых, папрыгажэць.

* * *

Ружовыя, белыя хвалі пяшчоты.
У бельскіх гародчыках чэрвень.
Нявесты-півоні - плаўная лінія,
пышная форма барока.
І кожны пялёстак палічаны
з месцам у зграбнай паставе.
Сваім.

Вось жа задумана калісь дзівосна
і вядзецца нязменна дасюль:
хвалі пяшчоты, зямля ў нябёсах.

* * *

Душа ў абалонцы плоці —
сама сабе выпадковасць,
пакуль не адшукана апірышча
згода добраахвотная
пакутаваць.

* * *

Блукае між намі,
стаіць у паветры -
рэха імя, якога не ведаем,
на якое не адгукаемся -
у якім мы ёсць.

* * *

А можа вось зараз
толькі кволаю просьбай,
адно нясмелым зваротам
тваім - да Божае ласкі
і трымаецца хтосьці,
над пространню лёсу...

* * *

Не прапусціць, не зблытаць ані з чым
выверане час дакладна іспыту -
запісана ад нараджэння быць
праверанай душы на вернасць
таму, пра што адно здагадваешся тут.

Боль абцяжарыць ці аблегчыць плоць?..
Назад альбо ўперад стыхія панясе
бездапаможнага нявольніка
выпрабавання?
А пры табе вясло тваё і лодка,
скарб сапраўдны ўвесь з табой.
Апала, што лістота ўвосень,
матэрыя, сабраная быццём.
Вяслуй па бурных водах смела
альбо ідзі, калі ўжо навучаны хадзіць,
услед за Тым, Якому шчыра абяцаў
яшчэ пры беразе народзін,
калі дамоўлена было й пра гэты міг і час
заўжды, паўсюль быць верным абяцаў...

Выверены час дакладна іспыту. І

**Паводле святіцеля Феафана**

Спасение не от места,
а от душевного настроения.
Паўсюль адчынены
вароты ў ратунак.
І прастрань
гібелі таксама зеўрае -
паўсюль.
З шэрагу братоў магутных
ангел першы і любімы
сябе сапхнуў на дол зямны
сваёй
атрутнаю сваволяй.
І апостал - відавочца
зямной хады Хрыстовай,
адпаў ад Госпада Самога,
а бачыў
цуды і магутнасць Бога.
Між тым
зняволены крыжом
разбойнік на гары Галгофе
адшукаў сцяжыну верную -
у Вечнасць.

**Да споведзі**

Туга і скруха. Раніцою зноў
апрыклую душу нясу у Храм.
Слабізнаю жыццёваю, бы здрадай,
вінюся прад Самім Жыццём.

Над прорваю - масток надзеі.
Нерашучы, дрогкі крок
апераджае мілажальнасць.
Схіляюся над аналоем.

* * *

Адна ў гняздзе радзінным
успаміны й магілы беражэ.
Малодшая і старэйшая ўжо.
Ад Раданіцы і да Раданіцы -
- чырвоных, белых стужак лёт.
Сіротамі свет заселены.

* * *

Няўжо апошняй сечы,
землятрусу, граду,
апошняй страты тут
ужо не абмінуць?

І папярэджаны наўпрост здаўна
наканавання не аспрэчыць чалавек...

Пачвара, распрасцёртая над светам,
Законы і Любоў, нахабная, глынае,
здратаванае карэнне ў кіпцюрах.
Растуць рады ахвярныя ўвачавідкі -
пакутнікі у белых вопратках
маўклівыя чакаюць...

Няўжо Армагедону быць,
і вызначана месца ўжо,
і расхінуты шаты часу?..

* * *

У чацвёртую ж стражу ночы
пайшоў да іх Ісус па вадзе.

*(Мф.14:25)*

Золак, світанне.
Чацвёртая стража.
За плячыма ў свету
дзве тысячы год.
І крочыць Хрыстос па вадзе,
бы мерае польны прасцяг.
Змыкае глыбіні, суцішвае вецер
не ў Галілеі ўжо -
Тыверыядскае мора бурлівае
на кожны падворак увайшло.
І вераю мосціцца шлях
скрозь прастрань адчаю
і страху смяротнае плоці.
Чацвёртае стражы пара.

## СЕРБСКІЯ МАТЫВЫ

* * *

> Сярод дынарскіх плямён
> непасрэдна пасля іхняга прыходу
> на Балканскі паўвостраў называецца
> ў гістарычных помніках племя драгавічоў.
> *Паводле Ёвана Цвііча*

Разгорнуты лёсы народаў -
укладзены веды, акрэслены шлях.
Гісторыя мусіць патрапіць
падзеі ўцялесніць у час.
Гукае плямёны славянскія
абраная месцам здзяйснення
зямля ў асмужаных далях.

З зялёных азёрных краёў,
па-над прыпяцкіх вод і Дняпра,
уздоўж Віслы, Дунаю
ў мігценне таемных Балкан
спяшае адважна, напорна
асвоіць абсяг абяцаны
русявых драговічаў гурт.

Сёння сумуе ўслед Беларусь -
сербы, сябры і радня...
2.04.2000

* * *

І зноў - вясновая пара!
Рэха, водгук, водбліск...
Дарагі ўспамінак мкне.

Шчыра, палка ўзыходзіць
да расчыненых нябёсаў
велікодных свечак рэй -
па-над сербскім стольным
спеўным, белым градам,
цнотай белаю каштанаў,
Тэразіяй і Калемягданам,
над спатканнем пекным
плыняў ветлых Савы і Дуная...

...Званы Святога Савы
на Врачару
слухаю ў родным Менску
ля адноўленай Марыі Магдалены...
19.03.1991 -06.1993

**Святая Петка**

Над маім хлопчыкам,
народжаным пятага
у пяты месяц года
і пяты дзень тыдня,
сама святая Параскева
апекавацца, пэўна, мае.
Святою Петкаю называюць
яе ў праваслаўнае Сербіі.
Бялградскай духмянай вясною
па пятым дні травеня
у каштанаў Калемягдана -
парку над Саваю і Дунаем -
пыталася я пра сцежку
да імі атуленага Храма -
царквы святой Петкі.
Я мелася шчыра прасіць
у шаноўнай святой,
каб увагай сваёю не абмінула
хлопчыка з Беларусі.
Ён сумуе па маме і ўжо
любіць далёкі Бялград...

Толькі ці мела Петка патрэбу
у маім напамінку пра сына?..
Прад святымі іконамі
і крынічкай ў Петкіным Храме
сум мой чыстай слязою сплываў.
12.1995

* * *

... Амурат Турский пошел ратью
на сербскаго цара Лазара.
И бысть весть:
убиша бо на Суиме обою,
и Амурата и Лазара.

*Ігнацій Смалянін, 1389 год*

Дваццаць восьмага чэрвеня.
Дзень сербскай Галгофы.
Задуха ў цэнтры Еўропы.
Над галоўным праспектам
слаўнай колісь дзяржавы
водар струменіць заўзята.
У Вялікае княства Літоўскае
ці слалі ганцоў за падмогаю...
Не паспяваю на Косава поле -
шэсць стагоддзяў і межаў слупы.
А ў Крушэвацу ліпамі сцежка
да князева Храма атулена.
Карэнне цярэбіць шляхі -
памяццю глебы прасякнута.
У небе - адным на ўсіх -
аблокі вятрыска пасе.
На лісце, траву, на асфальт
празрыстыя кроплі крыві
са слязьмі ападаюць...
Збалелыя - веру Хрыстову трымаюць
дзевяць братоў маіх Югавічаў.
Стаю на праспекце Скарыны
дваццаць восьмага чэрвеня.
28.06—22.08.1996

**Святы Сава**

Памагаў ён ўсім.
Да спачылага ў вяках
клалі сцежку спакутаваныя
не толькі адзінаверцы.

Растка - сын царскі -
паляваў і на аленяў удала,
а абраны быў іншымі ловамі,
у якіх рушацца пекла аковы,
зашчыраваў на Святой гары.

Сава, спачылы ў вяках,
паляўнічы з нябеснае раці,
страшным захопніку быў,
нат знерухомелы й маўклівы,
бо дбаў ён пра ўсіх,
каго роспач даймае…

Асвечаны попелам Савы
пагорак врачарскі ў Бялградзе.
Спеліў зялёны мурог
не толькі гаючыя зёлкі…

Магутнымі шатамі Храма
агорнута ўсё наваколле зямное.
Найвялікшай царквою ў свеце
Сава ўстаў на Врачару.
06.1997

* * *
Тут іншы час, чымсьці па ўсёй Еўропе.
Бялград пасляваенны. Нібыта ў сорак пятым
двухтысячны мінае год.

Мост над Савай, што жывая птушка
крыламі магутнымі трымае берагі.
Тут ланцуг з гарачых сэрцаў, рук
паўстаў супроць чарговай пошасці людской.
У вечны вырай разам адляцець
яны гатовыя былі з мастом…

Паранены Бялград не ў сорак пятым.
Сербія забітых памінае ўнукаў
партызан і воінаў апошняе вайны сусветнай.
20—25.09.2000

* * *

*Ніне*

Дзівосныя колеры, вабныя формы,
чмяліна-пчаліную музыку
хата ціхмяна выседжвае,
нібы квахтуха сваіх птушанят.

У клубнях прыснулая квецень -
абяцаннем цяпла ў мароз -
штуршком адзавецца рукам.

Спеліць вясну пад масніцамі
жанчына вяргіняю-кветкаю.

* * *

Усё, ці ж не ўсё ў прыродзе,
сэнсам адзіным, суцэльным,
з кропкі адной скіравана
і ўвасабляецца, несумяшчальнае бы,
выпадковае на чалавечы розум...

Залева ўскрайкам зімы,
як мусіў бы сівер марозіць.
Грамы па-над графікай крон -
прысадах і паркам зарослым,
што, ведама, грознай прыкметаю.

І раптам скрозь мокрую цемень
да самага сэрца — кліч жураўліны,
адхланне, святло й перамога.

* * *

Пасярод,
у самым сэрцы
усёабдымнага цуду -
свята жыцця -
пацверджання прагай
вечнага шляху свайго
апанаваны,працяты -
сам жа цуд.

* * *

Дзесь там - далёка, блізка,
дзесь за паваротам,
за гэтым часам -
абрысы шляху, лёсу,
шкляной смугою незамглелыя.
Ужо не прадчуванне -
ява, апошняя і праўдзівая,
якую, ці ў змозе я прыняць...

* * *

Народжаным у смутак -
пазбыцца смутку як?!.
Калі паблытаны і дні, і ночы,
а душа, як той камяк балесны з
паразбіваных капіляраў, усіх сасудаў.
Можа ўжо пашкоджаных навек
памкненняў светлых і надзей...
Навек - ад нараджэння!..

Падумай толькі, дружа, сам -
нашто было б Яму,
Усёмагутнаму Тварцу,
нас слаць сюды на здзек,
дзе кожным летам водар ліп
і музыкаю тхне зямля ў фіялетах...
Звычайна часта забываем мы,
народжаныя ў радасць і палёт,
што смутак толькі так - смуга,
і ёй часова засціць далягляд.
Навала полю шкодзіць,
як каласы стамляюцца да часу
цягнуцца верна ўвысь
і ва ўдзячнасці Ратая славіць.
Нашто было б... падумай, дружа.

* * *

Пасрэдніцтва руплівае
між кветкаю й плодам -
пчала з вулля старога
званкавым днём высокім
клопат свой вялікі
стараецца
напоўніцу адбыць,
не схібіць.
У глыбіню, дзе існасць,
наструненая ў чаканні,
яна наканаваннем звыш
дакладна ўваходзіць
і тайніцу жыцця пасля
старанна ўкладае ў соты.

Вечная служба пчаліная.
Хораша бацьку пры ёй.
Мёд з дараганаўскіх кветак
маленства сады і лугі.
Амінь вам, амінь.

* * *

І боль страты,канца -
выспа сыпучая,
багно ненаежнае,
вір укрутлівы -
аднойчы, бы раптам,
станецца в о п ы т а м .

Ручнікам часу асушаны слёзы.

* * *

Адной Айчынаю і шляхам
на лапіку зямным спалучаны
урослыя ў лёс, намераны аднойчы,
яліны векавыя, а нявечныя,
і я, смяротная - да іх тулюся.
Мы разам тут, адзін наш час,
адна дарога на ўсіх - угору.

Кронамі аблокі гушкаюць,
мой жыццяпіс круглявы ў іх ствалах.

**Да "Фантастычнай сімфоніі"
Гектара Берліоза**

Няма тае жанчыны
Сярод прадметаў, рэчаў.
Час паглынуў яе хаду.

Няма й музыкі ўжо даўно.
Згарэў не ў полымі пачуццяў,
Хоць бушаваў пажар у ім.
Прыгаршчай гадоў няўмольных
Патушаны касцёр чупрыны.

А жыццё хвалюе, абяцае.
Растулены ў Вечнасць час.
І кожны раз - наноў.

* * *

Жыццё -
час, узяты ў дужкі падзей,
падзеяй народжаны,
па падзеях раскладзены,
у падзеі ўштукаваны.
Падзея сведчыць пра час
і па ёй час вызначаецца -
час нараджэння і час смерці,
праміnanне, успамін і надзея.

Вось і я
прытаілася за выпадкова нібыта
адкрытаю дужкай свайго жыцця.
Разумнейшы за мяне
майго часу пачатак -
невыпадковасць імгнення,
якому заключнаю дужкаю
суджана стаць -
ведае.

* * *

Хросная на Спаса
яблыка матулі
на грудок сунічны
зноў не пакладзе.
Абміне й дачушку,
свёкраў, брата, мужа...

А вялікі ж яблык кош
мусіла б свяціць...

* * *

Запрошана была за стол
падчас Успення Багародзіцы Прачыстай,
у ноч, калі Гасподзь сышоў узяць
Душу Яе - немаўля, народжанае
заступніцтвам і ратаваннем свету...
За стол прысела побач з мамай,
павіталася з дзядулем Аляксандрам.
Было тут шмат яшчэ знаёмых,
якіх не бачыла даўно
і нат не думала калі сустрэць.

На роспыты казала штосьці
у радасці ад мамінае радасці.
Цякла няспешная размова.
За сваю мяне тут прызнавалі.
Была ўжо я нібыта дома -
побач з мамай дом паўсюль...
Ды ўсё чамусь цясней, шчыльней
плячом ў плячо бяседнікі.
І месца ўжо бракуе мне.
Неахвотна паднялася, ківаюць строга:
"Адведала радзіну і сяброў,
пагасцявала крыху й досыць.
Ідзі, сядай за і н ш ы стол.
Там чаша-чара ўжо твая сумуе
і верасы твае ліловай хваляй..."
Пайшла. Ў расплюшчаныя вочы
Успенне Багародзіцы
ранкам светлым уставала.

* * *

Месы арганнай шляхі
звалі кудысьці далёка,
настойліва вабілі высямі…
І жыццё вырастала ў жыццё,
нагадвала стукам салодкім
уладна знутры пра сябе…

Сына на стромах арганных
неяк застала аднойчы -
нібы добра знаёмаю сцежкай
імкнуў ён душою ўвысь.

* * *

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы…

*Максім Багдановіч*

У жамчужніцы свету
сціплай пясчынцы -
як патрапіць, паспець,
ці суджана й мне
жомчугам стацца
між іншых, больш вартых,
прасякнутых светлаю воляй
Світання…

* * *

У пару, калі сонца й васільковатага неба
над зямлёю зялёнай так шмат,
здаецца на могілках нават -
Вечнасць далонямі свет ахінула:
усе ўжо спачылі, хто меў адысці.

І якое ж здзіўленне, спалох -
рыдлёўкі ў руках далакопаў,
тымчасовая рана зямлі.
У блакітнай царкве адпяваюць кагось.

**На Грабарцы**

У водбліску Фаворскага святла
пад прыхільным позіркам Хрыста,
Які сустрэчай з Іліёй і Маісеем
вучням сілы ў веры надаваў,
манахіня Аляксандра па літургіі
кветкі парадкавала ля Храма.

Найпрыгожае й пяшчотнае,
чым дню зямля ўсміхнулася -
запозненыя жоўтыя вяргіні
і астры раннія бялюткія
з гародчыкаў вясковых
на Грабарку ўранні
прынесены з надзеяй і любоўю.

І здалося, прыпыніўся час-
Гаспадар яго заседжаны
у хараство зямное.

* * *

Тут ва ўсім -
Мама.
Адна вялікая ласка
ад зямлі да нябёс.
Шчымліваю праўдай
сплывае вада -
Пціч у Прыпяць,
жыццё ў таемны працяг.
І я табой станаўлюся -
Мама.

* * *

Гасподзь Бог,
Які спазнаў гэты свет
акром як дотыкам, зрокам, слыхам,
найперш недасягальнай пакутаю
Спаса й Збавіцеля Адзінага -
Сам Любоў,
дае прыклад любові
да таго, што сябе адмаўляе
несупынным, бясконцым памкненнем
у відавочнасць знікнення,
крэсліць і адчужае, вымучвае
і разам - не спасцігнуць! - навучае,
як у Любові знайсціся
смакоўніцаю не пустой -
з плодам.

* * *

Сына плоць смяротную
у абдымкі прыняла.
Прадказана і сталася —
дзіда працяла сэрца Ёй.

Паміж тутэйшых даляглядаў
завершана Яго хада ўжо.
Галгофа. Новыя й час, і свет
народжаны крыжовым Дрэвам.

Яна ж, у пакуце скамянелая, усё
гарнула Вечнасць да грудзей —
Абранніца Нябёсаў, Маці Бога.
28.08—20.11.07

* * *

Цеханавецкі збанок,
бельская хата,
а верасы - з Дараганава,
што ў Пцічы на плячы
хваёвае прымасцілася.

Ад жніва да жніва -
мой абярог,
варта нядрэмная,
спадчына дрыгавічоў -
грамнічнае полымя
верасоў.

* * *

Ці маю права
іншых пазнаваць праз сябе?
Варагуюць ува мне любоў
                                        і нянавісць.
Што пераможа?!
Кожны, мною сустрэты, —
                                                        лепшы.
У ім зіхціць т а я м н і ц а .

* * *

Вецер са жменю
жаўтлявых сардэчкаў
сыпануў на падворак.
У смелай зялёнай траве
бурштынавы яблык мігціць...

Смак, водар жыцця!
З парога вечнасць гукаецца
пругкаю прагаю - быць!

**ЗМЕСТ**

"Пабольшае прасторы ціхае"
"Пакуль дрыготкае здзіўленне"
"Пасля, ужо пасля ўсяго"
"Марудны той разбег"
"О, Госпадзе"
Троіца. Духаў дзень
"Увосень на плёсах рачных"
"У смелай, палкай спрэчцы з тым"
На кладах
"Беламу наліву"
"Прыкмячаю часам, як аднекуль"
"Бунтоўнай стыхіі"
Сустрэча
"Пра ўладу кволае рукі"
"Нам, спадкаемцам Садома і Гаморы"
Сонца
"У мяне, смяротнай"
Трынаццатага снежня
"Мой самотны паэце"
"Красуе без меры"
„І кожны міг"
"Голасам гучным"
"Непрыдуманы…"
"Добра знаёмаю сцежкай, як некалі"
Верую
"Ахвотнік на сцежцы Іова"
"Па ўсведамленні залежнасці"
"Губляе ў смутку лісце сад"
"Мілавіца
"Скрозь маміна вакно гляджу"
"Крыжы залатыя — распылены рукі"
"Ты Сам пераводзіш стрэлкі гадзінніка"
"Глянь: імклівая"
"Пад плоймаю вірлівых парасонаў"
"На свет паменшала ў белым свеце"
"Змяркання дрогкі чын"
"Самотны паэт трагічнага часу"
"На золку сон — мой крок"
"Лагодзіла ружы пацiху вада"
"Пьета ад Нотр-Дам…"
Госць
Чарніцы
"Калі званы святочна збіраюць"
"Ранкам"
Ода кафлянай печы
Акацыя
"Ці ж вінаваты верасы"
"У сэрцы прарасці, Галгофа"
"Я ведаю, што я памру"
"Стомленаму на пралётах"
"Якой бязважкае сняжынкі"
"На слупах Вечнасці"
"Адтуль, здалёк"
"Не падыходжу"
"Падараваны мне ізноў"
"Ён наперад ведае"
Грабарка
Услед маме
""На выспе міжчасавай"
"Ружовыя, белыя хвалі пяшчоты"
"Душа ў абалонцы плоці"
"Блукае між намі"
"А можа вось зараз"
"Не прапусціць, не зблытаць…"
Паводле свяціцеля Феафана
Да споведзі
"Адна ў гняздзе радзінным"
"Няўжо апошняй сечы"
"Золак, світанне"
Сербскія матывы
"Разгорнуты лёсы народаў"
„І зноў — вясновая пара"
Святая Петка
"Дваццаць восьмага чэрвеня"
Святы Сава
„Тут іншы час, чымсьці…"

"Дзівосныя колеры..."
"Усё, ці ж не ўсё ў прыродзе"
"Пасярод"
"Дзесь там —далёка, блізка"
"Народжаным у смутак"
"Пасрэдніцтва руплівае"
"І боль страты, канца"
"Адной Айчынаю і шляхам"
Да Фантастычнай сімфоніі...
"Жыццё - час, узяты"
"Хросная на Спаса"
"Запрошана была за стол"
"Месы арганнай шляхі"
"У жамчужніцы свету"
"У пару, калі сонца..."
На Грабарцы
"Тут ва ўсім"
"Гасподзь Бог"
Сына плоць смяротную"
"Цеханавецкі збанок"
"Ці маю права"
"Вецер са жменю"